Магістрат



«МАГІСТРАТ» — Газэта Віцебскай Рады Партыі БНФ №7(102), травень, 2019г.

# ПЭРСПЭКТЫВЫ СТАСУНКАЎ БЕЛАРУСІ І NATO

**17 траўня ў цэнтральнай сядзібе БНФ адбыўся круглы стол "NATO як гарант міру і бясьпекі ва Усходняй Эўропе: выклікі і пэрспэктывы", прымеркаваны да 70-годзьдзя падпісаньня Паўночнаатлянтычнай дамовы і паўстаньня NATO.**

Па словах намесьніка старшыні Партыі БНФ **Аляксея Янукевіча**, у дыскусіі, у якой удзельнічалі палітыкі, грамадзкія актывісты і палітолягі, былі абмеркаваныя пагрозы і выклікі, з якімі арганізацыя Паўночнаатлянтычнай дамовы сутыкаецца падчас сваёй дзейнасьці як гаранта міру і бясьпекі ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе:

„Мы бачым, што існуючая афіцыйная канцэпцыя нацыянальнай бясьпекі ў Беларусі мае вельмі шмат слабых бакоў. Яна вымагае сур'ёзнай рэвізіі, у тым ліку і ў накірунку развіцьця адносінаў з NATO", — лічыць Аляксей Янукевіч: - NATO ёсьць глябальным гульцом і шмат гадоў грае важную ролю ў нашым рэгіёне. Тая роля, якую сёньня адыгрывае NATO, якую можа адыграць у будучыні дзеля забеспячэньня бясьпекі нашай краіны - гэта тэма, гэтая роля на жаль часьцком выпадае з увагі беларускай грамадзкасьці.

У працы круглага стала, на якім абмяркоўвалася роля NATO ў сучасным сьвеце і адносіны гэтай арганізацыі з Беларусьсю ўдзельнічалі прадстаўнікі Партыі БНФ, БСПД (Грамада), Руху салідарнасьці "Разам" ды іншых партыяў ды рухаў.

З дакладамі выступілі кіраўнік інфармацыйна-аналітычнага парталу Belarus Security Blog **Андрэй Паротнікаў**, палітоляг і кіраўнік экспэртнай групы "Цэнтар палітычнай адукацыі" **Андрэй Ляховіч**, грамадскі дзеяч і палітоляг **Алесь Лагвінец**. У дыскусіі таксама ўзялі ўдзел старшыня Партыі БНФ **Рыгор Кастусёў**, палітычны аглядальнік агенцыі Белапан **Аляксандр Класкоўскі**, аглядальнік Радыё Свабода **Уладзімер Глод**, палітоляг **Юрый Чавусаў**, іншыя экспэрты, актывісты ды журналісты.

Словамі «Шлях складаны, комплексны і затратны» Андрэй Паротнікаў, экспэрт у пытаньнях бясьпекі, заснавальнік Belarus Security Blog, акрэсьліў беларускія пэрспэктывы ў NATO: «Ня трэба мець ілюзіяў, што гэты шлях будзе просты і кароткі. Напачатку трэба выйсьці з АДКБ, затым пабыць пэўны час у статусе пазаблёкавай краіны. І толькі пасьля можна будзе на нешта спадзявацца».

А вось палітоляг Юры Чавусаў згадаў, што 6 гадоў таму ў падобнай дыскусіі ў сядзібе БНФ з нагоды пэрспэктываў разьмяшчэньня ў Беларусі расейскай авіябазы яму давялося абмяркоўваць такія ж пляны для Ўкраіны — «і тады амаль усе ўдзельнікі дыскусіі называлі падобны сцэнар фантастыкай - а сёньня на палітычнай сцэне Ўкраіны далучэньне да NATO ёсьць амаль мэйнстрымам і канстантай украінскай палітыкі. Прынамсі, асноўныя кандыдаты на нядаўніх прэзыдэнцкіх выбарах не ставяць пад сумнеў курс Украіны ў NATO».

Палітоляг Алесь Лагвінец лічыць, што ў гэтым ёсьць віна абодвух бакоў.«У штаб-кватэры NATO чамусьці не заўважаюць, што ў беларускага палітычнага і




вайсковага кіраўніцтва рыторыка наконт блёку больш мяккая, чым у Крамля. Менск апошнім часам усё ж паказвае элементы нэўтральнасьці ў гэтым пытаньні. Але ў Брусэлі, як і раней, лічаць Беларусь заядлым хаўрусьнікам Расеі.

З другога боку, у беларускага кіраўніцтва таксама няма даверу да NATO. Таму ад дыялёгу Брусэля і Менску пакуль няма плёну».

Кіраўнік экспэртнай групы «Цэнтар палітычнай адукацыі» Андрэй Ляховіч лічыць, што ў Беларусі пакуль няма па-сапраўднаму нацыянальнай арміі.

«У нашай арміі ёсьць сучасная зброя. Але, я перакананы, у беларускіх вайскоўцаў няма псыхалёгіі змаганьня зь „зялёнымі чалавечкамі". А ў такім выпадку зброя — гэта другаснае. Пакуль нас абараняе ад жаданьня Крамля далучыць Беларусь толькі эканамічная слабасьць Расеі».

Намесьнік старшыні Партыі БНФ Аляксей Янукевіч паабяцаў, што «гэтая дыскусія - гэта толькі пачатак»: «Мы зьбіраемся істотна абнавіць партыйную канцэпцыю нацыянальнай бясьпекі. Таму падобныя мерапрыемствы абавязкова будуць яшчэ. Канечне, пакуль заўчасна казаць, што бальшыня беларускага насельніцтва прыхільна ставіцца да Паўночна-Атлянтычнага альянсу. Але такое стаўленьне трэба выхоўваць, тлумачачы людзям, што расейскія авантуры могуць вельмі зашкодзіць Беларусі», — падкрэсьліў Янукевіч.

Сойм Партыі БНФ перакананы, што ў цяперашняй сытуацыі асаблівую значнасьць набылі праграмныя палажэньні партыі, у адпаведнасьці зь якімі Партыя БНФ бачыць будучыню Беларусі ў Эўрапейскім Зьвязе ды ў наймацнейшым у сьвеце і ўгрунтаваным на супольных каштоўнасьцях абарончым паразуменьні - Арганізацыі Паўночнаатлянтычнае дамовы (NATO).

Партыя БНФ заклікае ўрад Беларусі здзейсьніць выхад з АДКБ, паведаміць Расейскай Фэдэрацыі пра нежаданьне працягу дамовы пра знаходжаньне ў Беларусі расейскіх вайсковых аб'ектаў "Вілейка" і "Ганцавічы", распачаць інтэграцыю Беларусі ў агульнаэўрапэйскую і трансатлянтычную сыстэму бясьпекі.

Поўны тэкст: http://narodny.org/?p=22402

Магістрат

**Выдавец**:
Віцебская Рада
Партыі БНФ
**Рэдактар:**
Канстанцін Смолікаў
**Наклад:**
299 паасобнікаў

*http://kamunikat.org/mahistrat.html*

Пункты погляду рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць.

Друкуецца на правах рукапісу для ўнутранага карыстаньня

Можа выкарыстоўвацца ў рэкламных і агітацыйных мэтах.

**ВІЦЕБСКАЯ АБЛАСНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ПАРТЫІ БНФ**
**вул. Церашковай, д.11, п.1.13, г.Віцебск, Рэспубліка Беларусь, 210035**
Тэлефоны для кантактаў:
**8-029- 710-42-23, 218-98-38, 711-24-47, 593-15-34, 517-32-53.**
**E-mail: kas_vit@tut.by**
**WWW.NARODNY.ORG**
VK.COM/PARTYJA_BNF
**WWW.MOLADZ.INFO**
VK.COM/BNF_MOLADZ



# АКТЫВІСТЫ ЎШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ АБ АХВЯРАХ СТАЛІНСКІХ РЭПРЭСІЯЎ

**Напярэдадні Радаўніцы сябры грамадзянскай ініцыятывы "Хайсы" наведалі ў ваколіцах Віцебску месцы расстрэлаў і пахаваньняў ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў.** Ля крыжоў памяці і на магілы, у якіх ляжаць знойдзеныя ў часе пошукавых экспэдыцыяў парэшткі рэпрэсаваных, актывісты ўсклалі кветкі, запалілі памінальныя зьнічкі.

**Грамадзянскія могілкі ля вёскі Мазалава**

У жніўні 2018 году на ўскрайку мазалаўскіх могілак амаль патаемна ад грамадзкасьці былі пахаваныя парэшткі 302-х чалавек, знойдзеныя годам раней вайскоўцамі 52-га пошукавага батальёну ў лесе пад Хайсамі.

Шыльда на драўляным крыжы не паведамляе ані пра пахаваных у магіле, ані пра тое, хто забіў столькі людзей.

Абураныя гэткім стаўленьнем да мінулага побач з афіцыйным крыжом грамадзкія актывісты летась усталявалі свой. На шыльдзе напісана: "Ахвярам сталінскага тэрору, расстраляным каля вёскі Хайсы ў 1937-39 гадах і перапахаваным тут у 2018 годзе".

"Тут ляжаць грамадзяне, забітыя сталінскім рэжымам. Родныя гэтых людзей дасюль ня ведаюць пра месцы іх пахаваньняў. Яны ня могуць наведаць іх магілы, прынесьці кветкі, памаліцца. Гэтую справу за іх робім мы, бо разумеем важнасьць гэтай справы, бо мы – людзі…" – сказаў старшыня грамадзянскай ініцыятывы "Хайсы" Ян Дзржаўцаў.

**Мэмарыял каля станцыі Лосьвіда**

На вайсковым мэмарыяле ля ст. Лосьвіда у 2016 годзе ўлады ўціхую пахавалі за масіўным бэтонным помнікам савецкім вайскоўцам парэшткі 172 рэпрэсаваных.

Паводле падлікаў актывістаў, колькасьць пахаваных мусіць быць большай. Ніякіх афіцыйных згадак пра тое зусім няма. На магіле стаіць адзіны крыж з шыльдай. Яго таксама паставілі сябры ініцыятывы "Хайсы". Надпіс на шыльдзе такі самы, як і ў Мазалаве.

На думку Яна Дзяржаўцава, у СМІ трэба шырэй паведамляць пра месцы пахаваньняў рэпрэсаваных, каб людзі мелі магчымасьць даведацца пра імаверныя месцы апошняга спачыну сваякоў.

"Мы ня ведаем канкрэтна, хто тут ляжыць, але агульны сьпіс расстраляных у Віцебскай турме паступова складаецца з розных базаў дадзеных, якія ёсьць у адкрытым доступе", – кажа Дзяржаўцаў.

**Народны мэмарыял "Хайсы"**

У сувязі з забаронай уладаў наведваць лясы грамадзкія актывісты абмежаваліся гэтым разам ускладаньнем кветак ля крыжоў, што стаяць на ўскрайку ляснога масіву ля вёскі Хайсы.

С. Горкі.

# ЯРАСЛАЎ ІВАНЮК РАСКАЗАЎ ПРА "КАМУНІКАТ"

**Праект беларускай бібліятэкі "Камунікат" ажыцьцяўляецца ўжо цягам 19 гадоў.** Спачатку стараньнямі некалькіх энтузіястаў, а цяпер – "Беларускім гістарычным таварыствам" Беластоку. На "Камунікаце" сабрана сёньня амаль 40 тысяч беларускіх публікацыяў.

Як патлумачыў у Віцебску стваральнік і адміністратар інтэрнэт-бібліятэкі **Яраслаў Іванюк**, рэсурс мае падтрымку Міністэрства замежных справаў Польшчы. Атрыманы грант дазволіў стварыць добрае электроннае забесьпячэньне, найперш – замяніць стары рухавік. І цяпер, па яго словах, рэсурс працуе амаль беззаганна.

"На гэты момант я з упэўненасьцю магу сказаць, што інтэрнэт-рэсурс ***Kamunikat.org*** – найбольшая электронная беларуская бібліятэка. І ня трэба зьдзіўляцца, што ствараецца яна ў Польшчы, бо там таксама жывуць беларусы.

Выступаючы перад віцяблянамі, спадар Яраслаў паказаў, як зручней карыстацца інтэрнэт-бібліятэкай. У ёй працуе пошукавая сыстэма, а ўсе матэрыялы падзеленыя на разьдзелы. У разьдзеле "Кнігі", да прыкладу, сабрана амаль 8 тыс. беларускіх кніжак. І гэта ня толькі кнігі, якія выходзяць цяпер, але і друкаваныя, выдадзеныя ў дакампутарную эпоху. У сваю чаргу, разьдзел «Кнігі» падзелены на катэгорыі "Мастацкая літаратура", "Філязофія", "Біяграфіі"... Усё – як у традыцыйнай бібліятэцы.

Беларуская пэрыёдыка прадстаўленая трыма сотнямі найменьняў. Ёсьць газэты, якія выходзілі ў беларускай эміграцыі, выдаваліся нацыянальнымі меншасьцямі Польшчы і Літвы. Ёсьць нумары "Нашай Нівы", "Свабоды", "Пагоні".

Як адзначыў Яраслаў Іванюк, адлічбоўваць газэты значна цяжэй, чым кнігі, але такая праца робіцца.

Ёсьць на "Камунікаце" і кнігі аўтараў зь Віцебшчыны. Дарэчы, усе матэрыялы на «Камунікаце» знаходзяцца ў вольным доступе.

# ДРЭВЫ НАРОДНАГА ПАРКА

**Высадзіць дрэвы і кусты на пустуючых плошчах каля сваіх дамоў ці дамагчыся гэтага ад уладаў заклікаюць актывісты ініцыятывы "Зялёны Віцебск".**

Прыклад занядбання так званага "Парка 1000-годдзя", які быў закладзены больш за 40 год таму каля абласной бальніцы, а толькі зараз на ім пачалі высаджваць дрэвы, вымусіў дзейнічаць зялёных актывістаў, якія пражываюць на вуліцах Чкалава і Воінаў-Інтэрнацыяналістаў абласнога цэнтра.

Пустыя землі на плошчы меньш за 5 га, якія абмяжоўваюцца праспектам Чарняхоўскага, вуліцай Воінаў-Інтэрнацыяналістаў, пуцямі чыгункі і будынкамі СТА "Аўтакан" і гаражамі прапануецца засадзіць дрэвамі ў бліжэйшай будучыні. Месца над АЗС №2 Белнафтахім і прылеглыя пляцоўкі выдатна прыдатныя для азелянення, участкі знаходзяцца недалёка ад жылых дамоў, карыстаюцца велааматарамі і спартсмэнамі для трэніровак, тут можна пабачыць і ўладальнікаў сабак, якія выгульваюць тут сваіх пітомцаў. Праз колькі год пры добрым наглядзе высаджаных дрэваў сюды з задавальненнем будуць прагульвацца маці з малымі дзецьмі, каб проста сысьці з запыленых двароў і падыхаць свежым паветрам і паслухаць спевы птушак.

На генеральным плане забудовы Віцебска частка гэтых земляў прызначаная для будаўніцтва грамадскіх аб'ектаў, але, як сказаў галоўны архітэктар Віцебска **Ігар Кадушка** "… інвестара можа і не знайсцісь". Таму сваечасовая ініцыятыва актывістаў, якая падтрыманая подпісамі мясцовых жыхароў да выканкамаў і домакіраўніцтваў, і невялічкай групай жыхароў Віцебска, якія плануюць ужо гэтай вясной пачаць высадкі дрэваў і кустоў.



Назву новаму парку (ці скверу) папярэдне далі адпаведную. Яго ўжо называюць **Народным**, бо хто як не актыўныя грамадзяне сваёй краіны і валанцёры роднага горада павінны клапаціцца пра будучае сваіх мікраранаў, іх экалагічную бяспеку і зручныя месцы адпачынку і прагулак з дзецьмі.

Таму неабыякавыя гараджане па прапанове **Аляксандра Ільінца**, што жыве на вулічы Чкалава, звяртаюцца да усіх віцаблянаў з прапановай не заставацца ўбаку, пачаць фармаваць вакол сабе ўтульную інфраструктуру для камфортнага жыцця, неад'емнай важкай часткай якога ёсьць зялёныя лёгкія горада. Чакаем актывістаў Зялёнага Адраджэння каб разам працягнуць рабіць годную справу!

# АДЗНАЧАЙ РОДНАЙ МОВАЙ – БЕЛАРУСКУЮ!

**У кастрычніку 2019 году ў нашай краіне пройдзе чарговы перапіс насельніцтва.**

Сярод пытаньняў (нумар 12 і 13), на якія трэба будзе адказаць падчас перапісу, будзе і пытаньне пра вашую родную мову. Адказ мае не толькі сімвалічнае, але і практычнае значэньне.

Ад колькасьці людзей, якія ў адказах назавуць беларускую мову, будзе залежаць далейшая палітыка дзяржавы. Адказам «беларуская» вы станоўча паўплываеце на яе.

Гаворыць старшыня Берасьцейскай абласной арганізацыі Партыі БНФ **Зьміцер Шыманскі**:

- Выпадковых пытаньняў падчас перапісу не задаюць. Усе гэтыя зьвесткі пасьля будуць выкарыстоўвацца і навукоўцамі для дасьледаваньняў, і дзяржаўнымі ўстановамі для таго каб карэктаваць сваю палітыку. Таму канешне, натуральна – хлусіць ня трэба: трэба проста ўспомніць, чаму вас вучыла маці, што вы чулі, калі прыяжжалі да бабулі ў вёску, і кажаць шчыра, што вашая першая родная мова – гэта беларуская мова.

Беларускія дзеячы заклікаюць грамадзян да выбару беларускай мовы як роднай у перапісе насельніцтва. У выказваннях пра родную мову нярэдка ўзгадваюцца дыялекты, якія нас адрозніваюць і аб'ядноўваюць адначасова.

Кажа тэолаг, рэлігіязнаўца **Наталля Гарковіч**:

– Калі мая палесская бабуля прыехала ў Менск і пайшла ў царкву, то падчас набажэнства было чытанне на беларускай мове. Яна прыйшла з царквы і сказала: „Слухатэ, я всэ разумію". Нашы рэгіёны досыць адрозніваюцца адзін ад аднога. Але тым не менш, афіцыйная мова ўсё ж,




мне падаецца, з'яўляецца для ўсіх нас роднай.

Любая мова існуе, калі ёсць яе дыялекты, лічыць гісторык, супрацоўнік Беларускай акадэміі навук **Аляксандр Доўнар**:

– Я стараюся гаварыць на тым дыялекце, на якім я вырас. Дзядуля і бабуля са мной гаварылі па-беларуску, і я лічу, калі я буду гаварыць не па-беларуску, не на маёй роднай мове, на якой са мной гаварылі мае бацькі і дзяды, то гэта пэўная непавага да іх.

http://narodny.org/?p=22497

# "НАША ЎСЁ" НА ДАРОГАХ: ДА ЧАГО ПРЫВЯЛІ "ЭЎРАЗІЙСКІЯ" ПОШЛІНЫ НА ЎВОЗ АЎТО

**Сябра Сойму Партыі БНФ Зьміцер Дрыгайла ў блогавым допісе на старонках тыднёвіка "Белгазета" піша пра тое, як беларускі аўтапарк пад уплывам расейскіх пратэкцыяністычных захадаў, навязаных Беларусі пра Эўразійскі саюз у 2011 годзе, перастае быць падобным на аўтапарк эўрапэйскіх краінаў.**

На мінулых выходных адведаў Парыж. І, не паверыце, у вочы кінуліся ня Луўр з Нотр-Дамам і не Пале Руаяль з Сакрэ-Кёрам. Бо да гэтых цікавостак я быў падрыхтаваны. А вось сьціплы французскі аўтапарк на дарогах уразіў. І ніяк ня мог зразумець, чым жа канкрэтна: нібыта красовэраў вобмаль і малалітражак бальшыня, але вось жа нешта сядзела ў падсьвядомасьці. І раптам я здагадаўся: дык гэта ж наш аўтапарк! Амаль такі, які ён быў у нас яшчэ гадоў зь пяць таму. BMW, Peugeot, Audi, Citroën, Renault, Volvo й Mercedes.

Не, натуральна, у нас гэтыя маркі машын на дарогах можна сустрэць і зараз. І шмат якія іншыя. Але некалькі гадоў таму наш аўтапарк быў нашмат больш дывэрсыфікаваны, чым цяпер. Канечне, ён быў у масе сваёй больш ўзроставы, чым у Францыі (там пераважаюць новыя аўто), але зірнуць на аўтапарк  і было такое адчуваньне, што ты у Эўропе. А цяпер не. Што ж здарылася?

Памятаеце, ад другой паловы 2011г. у нас былі падвышаныя мыты на ўвоз патрыманых аўтамабіляў да расейскага ўзроўню. Кошт увозу патрыманай машыны з-за мяжы «таёжнага саюзу» стаўся непад'ёмным для беларускіх грамадзянаў. Я сам напачатку 2011г. набыў сямігадовую BMW у Латвіі за $7 тыс., сплаціўшы на мяжы мыта ў памеры €950. Ужо празь некалькі месяцаў яно ўзрасло да €5,5 тыс., што аўтаматычна зрабіла немэтазгодным увоз патрыманых аўтамабіляў з-за мытнай мяжы. І за наступныя гады наш аўтамабільны рынак паступова зьмяніўся: на ім пераважаюць аўто, зробленыя ў Расеі. Самыя папулярныя: Lada ў сваіх найноўшых праявах (Granta, Vesta, X¬Ray), а таксама асобныя мадэлі марак, вытворчасьць якіх лякалізаваная ў Расеі: Volkswagen Polo, Nissan Qashqai, KIA Rio, некаторыя мадэлі Renault(тыя, што ў Эўропе існуюць пад румынскім брэндам Dacia: Logan, Sandero, Duster). То бок рынак машын стаўся нашмат больш аднародным. А мадэлі, што набываюць нашыя жыхары, -- нашмат таньнейшымі. Што й ня дзіва. 10-гадовыя Mercedes B, Suzuki SX-4 ці VW Golf Plus каштуюць столькі ж, колькі супастаўныя зь імі па характарыстыках новыя машыны расейскай зборкі! Натуральна ж, пакупнікі абіраюць новыя аўто з салёну з трохці нават пяцігадовай гарантыяй.

У Расеі на дарогах сытуацыя іншая. У Сібіры й на Далёкім Усходзе пераважаюць праварульныя старыя «японцы», на поўдні старыя «дзявяткі» з танаваным шклом, на эўрапейскай частцы краіны (апроч сталіц) -- танныя «карэйцы» расейскай зборкі (KIA, Hyundai ды розныя мадыфікацыі Lada - Classica, Priora, Kalina, Granta). У Маскве й Пецярбургу -- мяшанка, але пераважаюць тыя ж брэнды, толькі ў больш дарагіх мадыфікацыях. То бок зараз па-сапраўднаму народных аўтамабіляў два - Lada ды KIA. KIA прадала ў мінулым годзе 227 тыс. машын у РФ, амаль палова зь іх -- Rio, што шматтысячным накладам штампуюць на заводзе ў Пецярбургу. З Lada ўсё зразумела, гэта «іх усё», brand from Russia, з цэлым монагорадам на 700 тыс. жыхароў (Тальяці), дзе 100 тыс. занятыя на вытворчасьці аўтамабіляў. Дзяржаўныя праграмы trade in, імпартазамяшчэньня, падтрымкі вытворчасьці, дзяржаўныя закупкі. Цэлая дзяржава ў дзяржаве. А з 22 траўня яна яшчэ й пазбаўленая абавязку раскрываць інфармацыю пра сваё фінансава¬эканамічнае становішча адмысловым рашэньнем Банка Расеі, што вісіць на сайце рэгулятара мясцовага фінансавага рынку.

Гэткім парадкам, аўтарынак нашай усходняй суседкі ў сваёй пераважнай большасьці запаўняюць «карэйцы» й «расейцы». І ў нас -- тая ж планіда. Але ненадоўга. Бо сапраўдны трэнд расейскага аўтарынку -- экспансія «кітайцаў»: Chery, Lifan, Great Wall, Dongfeng, BYD. Безьліч іншых, менш папулярных (пакуль?) брэндаў. Ад пачатку такія прыгожыя, вельмі падобныя на некаторыя эўрапейскія машыны, яны ўжо праз год пачынаюць развальвацца. Унутры -- дрэнна пахнуць, звонку -- пластык. Там, дзе ня пластык, - там іржа. Затое новыя машыны можна набыць за $5 тыс. Вось расейцы масава іх і купляюць. Не ўсьведамляючы, што гэтыя машыны набываюцца адзін раз, прадаць іх немагчыма, нават на мэталалом. Пакуль так.

У нас таксама ёсьць «кітаец». Ён -- гэта «наша ўсё» прамысловасьці легкавых аўтамабіляў (электракары Zotye, як і іншыя праекты ЗАТ «Юнісон», пакуль не сягаюць па-за межы статыстычнай пагрэшнасьці на рынку). У пятніцу аж сам прэзыдэнт краіны, агледзеўшы Geely Atlas, застаўся задаволены. І невыпадкова. Нашыя Geely не паводзяць сябе так, як іншыя кітайцы, ды й каштуюць непараўнальна даражэй. Добра, што мы наладзілі вытворчасьць. Ступень лякалізацыі пакуль кульгае, але шлях правільны. А ўсё адно ёсьць туга па той разнастайнасьці на дарогах, што яшчэ нядаўна так прыемна злучала нас з Францыяй. Хоць у яе самой тры аўтагіганты: Renault, Peugeot і Citroën.

Нагадаем, што ў 2009 годзе Партыя БНФ ініцыявала рэфэрэндум па пытаньні мэтазгоднасьці далучэньня Беларусі да пагадненьняў пра мытны зьвяз, якія пагражалі ўвядзеньнем павышаных пошлінаў на аўтамабілі замежнай вытворчасьці. Улады заблякавалі правядзеньне рэферэндума, аднак, праз відавочную непапулярнасьць дадзенай меры былі вымушаныя адкласьці увядзеньне павышаных пошлін да 2011 года (на час пасьля выбараў). Варта зазначыць, што аўтамабілі з'яўляюцца адной з асноўных таварных пазіцый, па якой для Беларусі адбылося найбольш значнае павышэнне пошлін у межах Мытнага саюза.

**Зьміцер Дрыгайла**, http://narodny.org/?p=22536, паводле тыднёвіка Белгазета